Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 2(38) 12 — 18 студзеня 1996 года ЦАНА 1000 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Навіны, канфлікты, сенсацыі

### Тарыфы на праезд выраслі ўдвая

*МІНСК. З 5 студзеня тут павялічаны тарыфы на праезд у гарадскім пасажырскім транспарце.*

Цяпер кожны мінчанін або госць сталіцы павінен заплаціць за адну паездку ў метро 1500 рублёў. А з 15 студзеня і ў наземным транспарце.

На сённяшні дзень разліковы кошт адной паездкі ў Мінску складае ў аўтобусах 3846 рублёў, у трамваях і тралейбусах– 3029, у метро– 1405.

### "ЧП" турэмнага значэння

*Нядаўна ў мінскай калоніі ўзмоцненага рэжыму адбылося "ЧП". Двое зняволеных, узброіўшыся нажамі, захапілі дзвюх супрацоўніц калоніі і, пагражаючы расправай, патрабавалі ад кіраўніка выпраўленчай установы зброю, 10 тысяч долараў, 100 мільёнаў рублёў, а таксама аўтамабіль для выезду. Для перакананасці сваіх патрабаванняў адзін з іх ударыў нажом заложніцу.*

У выніку перамоў са злачынцамі ўдалося вызваліць адну заложніцу, а праз дзве гадзіны і другую.

Злачынцы, пераканаўшыся, што іх могуць проста перастраляць, здаліся.

Як патлумачыў пасля адзін з іх, напярэдадні, падчас спаткання са сваякамі, яму не дазволілі пранесці з сабой на зону лішні кілаграм цукерак. Гэта, аказваецаа, дало яму прычыну пакрыўдзіцца на адміністрацыю калоніі і захапіць заложнікаў.

*Па матэрыялах друку*

### Аматарам "Свабоды"— па "Грамадзяніну"

*ВІЛЕЙКА. Падчас вымушанага перапынку ў выпуску газеты "Свабода"— выдаўцы пераводзілі друкаванне за мяжу— паштовыя скрыні падпісчыкаў гэтай газеты не пуставалі. Вілейская раённая арганізацыя Аб'яднанай Грамадзянскай партыі разам са зваротам-лістоўкай да чытачоў "Свабоды" забяспечыла іх і снежаньскім нумарам свайго органа— газеты "Грамадзянін".*

Тут ёсць рэзон. Прыхільнікі "Свабоды" могуць падзяліць ідэі АГП . Чаму б не выкарыстаць зручны момант. Тым больш, што ў газеце ёсць адкрыты ліст аднаго з функцыянераў АГП– старшыні абласной арганізацыі, вілейчаніна, спадара В.Альфера да Прэзідэнта. Цікава толькі, калі "Свабода" зноў пойдзе да падпісчыка, "Грамадзянін" па-ранейшаму будзе апускацца ў тыя ж паштовыя скрыні?

*Мікола ГАЙДУК*

### Жадаючых нараджаць становіцца менш

*МАЛАДЗЕЧНА. У апошні год толькі ў Чысцінскім сельскім Савеце і ў гарпасёлку Радашковічы павялічылася колькасць жыхароў, бо нараджальнасць там большая за смяротнасць.*

А наогул па выніках мінулага года ў раёне карціна такая: 435 дзяцей з'явілася на свет; 996 чалавек пайшло з жыцця; 368 зарэгістравана шлюбаў і 151 выпадак разводаў (ў асноўным па прычыне п'янства)– інфармуе загадчык аддзела ЗАГС райвыканкома Ніна Сямёнаўна Бажко.

*Аддзел інфармацыі*

### "Стаяў МАЗ, упёршыся ў дрэва..."

*КРЫВІЧЫ. Калі грузчык мясцовага гарспажыўтаварыстваУладзімір Сінякоў на добрым падпітку выйшаў на праезную частку дарогі, тут якраз праязджаў МАЗ.*

Вадзіцель Раман Зімніцкі з ДЭУ-133, па яго тлумачэнню, каб не наехаць на пешахода, пачаў тармазіць, манеўраваць. Скончылася тым, што новы аўтамабіль, няхай і не на вялікай хуткасці, урэзаўся ў тоўстае дрэва. Пасля такога ўдару ад кабіны мала што засталося. Галіна Лётка з Ракуцяў, якая ехала ў МАЗе, вылецела праз лабавое шкло. Шчасце яшчэ, што не ўдарылася аб дрэва...

Тым панядзелкавым ранкам Уладзімір адпрасіўся з работы, каб адвезці сына ў бальніцу. А пасля так сумна зрабілася ў яго на душы, што вырашыў "крыху выпіць". Грошай у кішэні не было, але Сінякоў з гэтай нагоды не вельмі сумаваў, бо ў качагарцы чакала свайго часу дзесяцілітровая каністра бензіну. Яе і збыў Уладзімір незнаёмаму за дваццаць тысяч рублёў.

За гэтыя грошы Сінякоў купіў у магазіне пляшку "Празрыстай", пачак цыгарэт. Хацеў яшчэ ўзяць шакаладку для сына, аднак рэшты засталося малавата... Усю выпіў бутэльку "Празрыстай" ці не, Сінякоў дакладна не памятае. Як ішоў дадому– таксама. Адно запомнілася не вельмі ясна: "Перада мною стаяў МАЗ, упёршыся ў дрэва".

На гэты раз гора-пешаходу проста пашанцавала. Звычайна ў такіх сітуацыях гінуць пад коламі аўтамабіляў.

*Янка ВАСІЛЕЎСКІ*

### Выратавалася толькі Насця

*ВІЛЕЙКА. Калі на месца здарэння прыбылі ўзнятыя дзяўчынкай пажарныя, ратаваць ужо не было каго. У агні загінулі двухгадовы хлопчык і яго дзядуля, 60-гадовы Зянон Матук, якія леглі спаць, моцна натапіўшы печ. Гэта і стала прычынай пажару.*

Чацвертакласніца Насця прачнулася ад дыму, які запаўняў іх хату ў вёсцы Дубраўка. Матулі якраз дома не было, таму Насця кінулася будзіць дзядулю. Той мармытаў нешта, не жадаючы прачынацца. Побач кашляў, задыхаючыся ад дыму, яе двухгадовы брацік. Дзяўчынка спрабавала выцягнуць з хаты і маленькага, але задыхаючыся ад дыму, не змагла зрабіць гэта, таму кінулася за дапамогай да суседзяў.

Паветра рванулася праз расчыненыя дзверы і полымя, якое да гэтага тлела на печы, успыхнула ярка, шалёна патрэскваючы, перакінулася на столь, падлогу, сцены.

*Алена АЛЬФЕР,*
*дзяржінспектар па пажарнаму нагляду Вілейскага раёна.*

## Смаргонь: таямнічая выява— кожны ўбачыў тое, што хацеў?

*У мінулым нумары "РГ" было змешчана сенсацыйнае паведамленне, што ў тэрапеўтычным аддзяленні Смаргонскай райбальніцы напярэдадні Новага года ў акне адной з палат з'явіўся вобраз Ісуса Хрыста. Што гэта было: з'ява, не растлумачаная навукай, ці ,можа, проста падман зроку? Такія пытанні турбавалі нашага карэспандэнта Васіля Савіцкага, які днямі выехаў у Смаргонь.*

Жыхары горада напалоханыя, бо лічыцца, што загадкавыя з'явы адбываюцца напярэдадні розных катаклізмаў. Старыя ўспамінаюць нешта падобнае перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны.

Месца дзеяння– райбальніца, другі паверх, 22 палата. Вера Іосіфаўна, адна з тых, хто бачыў усё сваімі вачыма (астатнія сведкі выпісаліся):

–У палаце нас было шасцёра, усе цяжкахворыя. 20 снежня пасля 22 гадзін на акне абазначылася лічба "восем" памерам прыкладна 30x50 сантыметраў. Васьмёрка павялічвалася на вачах. У верхняй яе частцы паказаліся абрысы галавы Ісуса Хрыста з арэолам вакол яе. Твар Ісуса Хрыста быў сумным, вочы заплюшчаныя. Унізе– складзеныя рукі трымалі разгорнутую кнігу. Старыя, як убачылі вобраз, адразу пачалі маліцца. А мы, маладзейшыя, сядзелі ціхенька на ложках. За ноч амаль усе пацыенты бальніцы прайшлі праз нашу палату. Раніцай, амаль а восьмай гадзіне, пяцьдзесят хвілін у верхняй частцы васьмёркі з'явіўся вобраз Маці Божай з дзіцём на руках. А дзевятай гадзіне знікла ўсё, акрамя выведзенай з ільду васьмёркі. Прычым шкло ўнутры яе не замярзала, было чыстае і празрыстае. У суседняй з намі палаце ляжала Вера Захараўна, якая спявае ў царкоўным хоры. Тая звязалася з бацюшкам. Айцец Пётр уважліва выслухаў і сказаў, што гэтая незямная з'ява можа быць падкопамі нячысцікў, бо ніхто не бачыў крыжа ў Ісуса Хрыста. А нячыстая сіла можа з'явіцца ў любым аблічча, і баіцца яна толькі крыжа.

У ноч з 24 на 25 снежня зноў усе бачылі такі ж малюнак на шкле. Толькі ўжо Ісус Хрыстос у руках трымаў крыж. На жаль, прывід хутка знік.

Бацюшка прынёс у палату ікону Маці Божай, свечкі, маленькія крыжыкі і на працягу дзвюх гадзін праводзіў паніхіду па загінуўшых ахвярах канцлагера. Вядома, што ў час Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі цяперашняй бальніцы размяшчаўся канцлагер. Фашысты выкапалі два равы, туды кідалі і закопвалі ахвяры, душы якіх і па сённяшні дзень не маюць спакою. Таму і з'явіўся Ісус Хрыстос, каб мы, жывыя, выканалі свой абавязак– пахавалі астанкі па-людску.

Прыводжу і супрацьлеглую думку. Ірына Іванаўна, медсястра, тлумачыць падзею так:

–Сама я не бачыла, але размаўляла са сведкамі. Хто на замерзлым акне бачыў Бога, хто Дзеда Мароза, хто елку. Калі ўлічваць, што ў палаце ляжалі бабулі-верніцы, якія мелі пры сабе духоўную літаратуру, свянцоную ваду, то і не дзіва, што ўбачылі Ісуса Хрыста. Кожны ўбачыў, што хацеў.

Алена Рыгораўна, медсястра:

–Лічу, што гэта было праявай фізічнай з'явы. Рабочыя бальніцы гавораць, што шкло ў акне з дэфектам. Калі "хуткая дапамога" праедзе, у гэтым акне фары машыны неяк асабліва адлюстроўваюцца. Ды і ўсе бачылі пасля падзеі на небе вясёлку. І гэта зімою. Я не магу вырашыць, што ж адбылося на самой справе. У свеце яшчэ на адну загадку стала больш.

*Васіль САВІЦКІ*

## З міліцэйскіх крыніц

### Зноў стралялі

*МАЛАДЗЕЧНА. Стрэлы ў горадзе працягваюца, чым заклапочаны супрацоўнікі крымінальнага вышуку і асабліва жыхары.*

Увечары 31 снежня вуліцу Будаўнікоў зноў перапалохалі стрэлы. Злачынцы— хутчэй за ўсё з хуліганскага намеру— два разы пальнулі (па ўсяму відаць, не прыцэльна) у бок кафэ "Прытулак". Са сцяны будынка былі выцягнуты дзве кулі 9-мм калібру пісталета "Макарава". Затрыманы падазроныя. Вядзецца расследаванне.

...На Ражство ўвечары 7 студзеня жыхар Маладзечна Пятрухін адпачываў у рэстаране "Белы капрыз". Сварка з грамадзянінам Б. скончылася трагічна— стрэлам у галаву Пятрухіна з абрэза паляўнічай стрэльбы. Больш падрабязна аб гэтым здарэнні чытайце ў бліжэйшых нумарах "РГ".

*Аддзел інфармацыі*

### А гаспадар спаў

*У 4 гадзіны ночы восьмага студзеня нарад маладзечанскага гарадскога аддзела "Ахова", у які ўваходзілі міліцыянер-вадзіцель Рыгор Тытуш, міліцыянер-кінолаг Сяргей Грынеўскі, камандзір узвода па ахове банка Іван Хаміцэвіч, спыніў "Масквіч" без нумарных знакаў.*

У ім ехалі чацвёра Маладзечанцаў. Пры даглядзе машыны ўзнікла падазрэнне, што чатыры колы, якія ляжалі ў багажніку, крадзеныя. Падазрэнне пацвердзідася, злодзеяў затрымалі.

Гаспадар абкрадзенай машыны раніцай заявіў у міліцыю аб здарэнні і быў здзіўлены аператыўнасцю. Яму паказалі колы.

—Вашы?

—Так...

—Забірайце.

Група затрымкі аддзела "Ахова" у ноч з 1 на 2 студзеня прадухіліла крадзёж з магазіна "Эліт-3" па вуліцы будаўнікоў. Злодзеі не паспелі выканаць свой намер і кінуліся на ўцёкі.

Злачынцам, якія ноччу з 6 на 7 студзеня абакралі магазін "Верас" па вуліцы Ф. Скарыны, пашанцавала. Прыватны прадпрымальнік, якому належыць магазін, панёс страты больш за 10 мільёнаў рублёў. Крадзяжу спрыяла адсутнасць сігналізацыі, дрэнная ахова.

*Аляксандр СЕМАШКЕВІЧ,*
*начальнік Маладзечанскага гарадскога аддзела "Ахова".*

## Юбілей Г. Каханоўскага

**МАЛАДЗЕЧНА.** *Зусім нямнога не дажыў да сёмага дзесятка гісторык і пісьменнік Генадзь Каханоўскі, чыя руплівая праца на ніве Бацькаўшчыны вядомая далёка за межамі рэспублікі.*

Месца не хопіць на пералік таго, што зрабіў, у прыватнасці для нашага краю, Генадзь Каханоўскі. Горка і сумна ад таго, што шасцідзесяцігадовы юбілей нашага земляка сустракалі днямі без яго. Суцяшае адно; шмат паслядоўнікаў, сярод якіх і сын гісторыка– Алесь, перанялі з рук Генадзя Аляксандравіча сцяг адраджэння.

*Мікола ГАЙДУК*

## "Халімон камандуе парадам"

**МАЛАДЗЕЧНА.** *Спектаклем пад такой назвай па п'есе Уладзіміра Сауліча драматычная студыя "Адлюстраванне" пры Доме культуры чыгуначнікаў збіраецца абараняць званне народнай.*

–Фактычна наша студыя ўтварылася яшчэ ў 1988 годзе на базе суполкі "Крывіч",– расказвае рэжысёр Ала Кананові.– За гэты час, як і ў любой самадзейнай студыі, адбыліся пэўныя змены: нехта нас пакінуў, нехта прыйшоў новы. Творчы працэс– ёсць творчы працэс: былі ўздымы, былі і спады. Але сёння, лічу, становішча стабілізавалася. На рахунку студыі спектаклі "Кастусь Каліноўскі" паводле п'есы Уладзіміра Караткевіча, "Паўлінка" Янкі Купалы, "Генералы ў спадніцах" Жана Ануя. Расце прафесійны ўзровень такіх артыстаў, як Сяргей Зянько, Валянціна Тоўсцік, Мікола і Таццяна Закрэўскія, Пётр Кананові. У нас з'явіліся свае спецыялісты: гукарэжысёр– Віктар Крымоўскі, мастак– Алена Уладыка, цырульнік– Наталля Занкавіч (дарэчы, вельмі таленавітая актрыса), прыйшлі некаторыя маладыя акцёры. Думаю, што мы ўжо перараслі аматарскі, самадзейны ўзровень.

*Валерый МАРКЕЛАЎ.*

## У нашым рэгіёне

## Гордасць жабракам не па кішэні

***ВАЛОЖЫН.** З нецярпеннем чакалі медыкі раёна абяцанай Хрысціянскім саюзам моладзі Ґерманіі гуманітарную дапамогу. Дачакаліся. Толькі наўрад ці ҏакарыстаюцца ёй. Хіба стаматалагічнай устаноўкай 1976 года выпуску. Рэнтген-апарат і ультрагукавы, маральна і тэхнічна састарэлыя, прызнаныя непрыдатнымі для карыстання.*

Прадстаўнікі Хрысціянскага саюза моладзі абяцалі прывезці новае медыцынскае абсталяванне. Пасля канкрэтызаваныя абяцанні ўвасобіліся і ў цане сучаснага стаматалагічнага комплексу - паўмільёна марак.

Фінал аказаўся малапрыемны.

Але крыўдаваць на немцаў не прыходзіцца, бо мы самі абвясцілі сябе жабракамі, а жабракі не маюць права з гонарам адварочвацца, нават калі ім падаюць непрыдатныя рэчы.

*Т. ШАБЛЫКА*

## Банк будзе жыць, скараціўшы штаты

***Не так даўно з-за нізкага прыбытку Смаргонскае аддзяленне "Комплекс-банка" закрыла пункт абмену валюты, што размяшчаўся на першым паверсе гатэля.***

Зусім інакш складвалася сітуацыя вакол Астравецкага аддзялення "Белбізнесбанка". Хадзілі чуткі аб тым, што замест аддзялення будзе толькі разлікова-касавы цэнтр, а таксама тое, што банк закрываюць наогул.

Доўгі час вырашаўся далейшы лёс і зусім нядаўна было прынята канчатковае рашэнне – аддзяленне "Белбізнесбанка" у Астраўцы будзе. Вось толькі пройдзе значнае скарачэнне штату. Цяпер банк працуе ў звычайным рытме, прыцягвае грашовыя сродкі насельніцтва, абслугоўвае сваіх кліентаў – розныя фірмы і прадпрыемствы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ*

## Паласаваліся "Ласункам"

***МЯДЗЕЛ.** Апошнім часам на папулярнае сярод дзятвы райцэнтра кафэ "Ласунак" "паклалі вока" злодзеі. Адзін крадзеж адсюль быў летась. Не паспеў пачацца новы год, як кафэ зноў "узялі". Калі ўлічыць, што літаральна праз дарогу ад яго райаддзел міліцыі, то злачынцы не толькі рызыкоўныя, але і нахабныя. На гэты раз яны прыхапілі ў кафэ шакалад, цыгарэты, тушонку, алей, сорак тысяч рублёў...*

Крадзяжу спрыяла тое, што гандлёвы пункт не ўзяты на сігналізацыю.

Хто яго ўчыніў, яшчэ не вядома, аднак следчы РАУС Андрэй Рабовіч настроены аптымістычна: неўзабаве іх установяць.

*Наш кар.*

## Баба Капа і скаўт Іван танчылі рок-н-рол

*У апошні дзень скаўцкага зімовага лагера, месцам якога была сярэдняя школа вёскі Буйкі, што на Мядзельшчыне. Арганізатар "маёўкі" – аб'яднанне беларускіх скаўтаў – сабрала пяцьдзесят юных аднадумцаў з Маладзечна, Мінска, тутэйшых вёсак Лыцавічы і Буйкі.*

Пяць дзён праляцелі, быццам адно імгненне. Не было часу сумаваць: розныя спартыўныя спаборніцтвы, арыентаванне ў зімовым лесе, вялікае скаўцкае вогнішча, дыскатэка. Уразіў мясцовых жыхароў канцэрт. Напярэдадні быў запрошаны са Свіра ксёндз, які прыехаў разам з малодшым хорам. І гаспадары, і госці спявалі, танчылі. Асабліва ўсім спадабаліся вясковая баба Капа і скаўт Іван, якія паказалі майстэрства ў рок-н-роле.

*Васіль САВІЦКІ*

## Лепш беспартыйныя, чым беспрынцыповыя

***МАЛАДЗЕЧНА.** Сярод трыццаці выбраных дэпутатаў Маладзечанскага райсавета толькі адзін афіцыйна ўваходзіць у палітычную партыю: Станіслаў Генрыкавіч Стасіловіч, намеснік старшыні калгаса "Гарадзілава", з'яўляецца членам Аграрнай партыі.*

Амаль усе дэпутаты – кіраўнікі гаспадарак, прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, прадстаўнікі інтэлігенцыі. Ёсць адзін рабочы і адна загадчыца фермы.

Самы малады з народных выбраннікаў – Яўген Пятровіч Палонскі, старшыня калгаса "Прагрэс", – 1960 года нараджэння. А самы старэйшы – Баляслаў Іосіфавіч Гаўрыс, дырэктар торфабрыкетнага завода "Беразінскі", яму шэсцьдзесят. Сын Баляслава Іосіфавіча ўвайшоў у другі тур, калі балатаваўся ў вышэйшы заканадаўчы орган рэспублікі. Палітыку, хаця б і ў межах раёна, будзе рабіць бацька. Бо, як кажуць, маладым паўсюль у нас дарога, а старым заўсёды ў нас пашана.

*Васіль САВІЦКІ*

# Тайна забойства ля Страчанкі

*(Працяг. Пачатак у №№35, 36 за 1995г.)*

**Кароткі змест для тых, хто не чытаў папярэднія нумары "РГ".**

11-18 чэрвеня 1948 года ля вёскі Страчанка забілі дырэктара Клюшанскай цагельні Пятра Дыганава. Разам з бухгалтарам Віктарам Блахіным ён вёз са свірскага банка грошы для рабочых у вёску Кісялі. Шмат хто ведаў пра гэтыя грошы. Забойца, напэўна, быў з ліку знаёмых. Але імя яго бухгалтар чамусьці вырашыў не называць.

х х х

У той момант, як Блахін быў узяты пад арышт у Свіры, Домна з названым сынам Уладзімірам засталася на ноч у Страчанцы. Іх прытуліла Антаніна Паўловіч, жонка мясцовага дэпутата.

– Цяпер цёплыя ночы. Ідзіце ў пуню спаць.– Антаніна заўважыла поўны кошык, накрыты зверху вайсковай фуражкай.

– Яйкі,– спяшалася растлумачыць варожка.– А фуражку нясу жонцы Дыганава.

З раніцы госці пайшлі без падзякі.

Пачалося следства, апытванне сведкаў. Вызначылася шмат цікавых абставін.

Домна і Уладзімір пазнаёміліся летась. Два бяспашпартныя прайдзісветы толькі дамовіліся быць маткай з сынам.

–Ты малады ды прыгожы. У цябе закахаецца кожная дзяўчына,– памяркоўна нашэптвала Домна Шэйна.– Яе трэба толькі зачараваць. Замуж усе цяпер хочуць. Ажэнішся.

– Не хачу я жаніцца,– пярэчыў Уладзімір Баранец.

– Дурань. Табе не трэба будзе жыць з ёй. Толькі вызнаеш, дзе што каштоўнае,– і бывай, каханка...

Такі намер яны мелі, калі за некалькі дзён да забойства сустрэлі на свірскім вакзале Дыганава і пазнаёміліся з ім.

Пашкадаваў дырэктар гаротных бежанцаў. Прапанаваў ісці на завод працаваць. Толькі трэба было пашпарты аформіць.

–А жыць пакуль будзеце ў мяне. Мая Анісся добрая, не адмовіць.

Некалькі разоў дырэктар ездзіў у Свір за грашыма. Але ўсё няўдала. Домну з Уладзімірам з сабою аднойчы браў. Афармленне пашпартоў – справа клопатная. Пазнаёміў іх з цешчай, шваграм. Усе спачувалі небаракам.

Як вызначылі гэты факт следчыя, пачалі раскручваць "матку з сынам". Домна трымалася сваёй версіі. За два дні да забойства яны пайшлі ў Свір афармляць пашпарты. Па дарозе заходзілі да сялян. Домна варажыла ім. У дзень забойства выпадкова сустрэлі на дарозе Блахіна і даведаліся, што Дыганаў забіты.

Малады "сынок" быў менш цвёрды і, калі яго прыціснулі, на вочнай стаўцы з Домнай у пакоі следчага даў сведчанне супраць "маці".

– У 47-м я пазнаёміўся з Шэйнай, Арловым і Каласоўскім. На той момант ва ўзброеную групу бандытаў уваходзілі Арлоў, Каласоўскі, Жульба. Жылі яны ў лесе. Шэйна прыносіла ім ежу і запіскі. Ведаю, што ў сакавіку яны рабілі напады ў вёсцы Шуркшы. У жніўні абрабавалі аб'ездчыка ў Юрацішскім раёне. Узброенае рабаванне было і восенню. Пакуль у лістападзе Арлова не арыштавалі і не забілі. Ад савецкай улады мы пусціліся наўцёкі ў Літву.

Цяпер зноў вярнуліся. Вырашылі атабарыцца ў гэтых мясцінах. Так. Кралі. Сала, яйкі. Толькі ежу. Дыганаў хацеў нам дапамагчы. Я не забіваў яго. Пра справы Шэйны нічога не ведаю. Яна асцярожная стала, скрытнічае.

На наступны дзень пасля забойства мы пакінулі Страчанку і пайшлі ў вёску Барок. Шэйне трэба было па сваіх справах. Я чакаў яе на двары ля хаты Лукашэвіча. З боку багны з'явіўся высокі чалавек. Босы, валасы русыя. У польскай фуражцы. Ён нёс нейкі клунак у целагрэйцы. Зайшоў да Лукашэвіча. Я спытаўся, што за чалавек. Лукашэвіч адказаў: сусед.

Сведчанне Баранца зацікавіла НКУС. Супраць Домны Шэйны была ўзбуджана крымінальная справа па абвінавачванні: садзейнічанне ўзброенай бандыцкай групе. Але гэта следства ішло таемна, асобна і не мела ўплыў на разгадку забойства дырэктара Клюшанскай цагельні Пятра Дыганава. Далейшы лёс Уладзіміра Баранца зусім застаецца па-за кадрам...

***Святлана САРОКА***

***Матэрыял друкуецца на падставе сапраўдных падзей і дакументаў Маладзечанскага філіяла Дзяржаўнага архіва.***

(Працяг будзе)

## "Рэгіянальная" злучае лёсы

Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Хачу падзякаваць вашай газеце за тое, што, дзякуючы ёй, мы з мужам знайшлі адзін аднаго. І спадзяёмся, што не памыліліся, злучыўшы нашыя адзіноцтвы ў адну цэлую і дружную сям'ю. Дзякуй вам, што робіце такую патрэбную справу. У наш час вельмі цяжка пражыць у адзіноце. А калі ёсць побач чалавек, які кахае, можна пераадолець усё.

*З павагай да вас*
*Валерый і Людміла.*

# Аб'ядноўвайцеся ў партыю прыхільнікаў "РГ"!

***Разнастайная інфармацыя, парады, прапановы для штодзённага карыстання – і ўсё гэта ў спецыяльным выпуску і толькі для блізкіх сяброў "РГ". Сёння адказная за партыйны бюлетэнь маладзечанская брыгада на чале з членам Палітбюро Васілём Савіцкім.***

Вынікі за мінулы месяц, перспектыва на будучае, яскравыя ўражанні – аб гэтым гавораць:

**Вера Сяргееўна Прошка, галоўны бібліятэкар чытальнай залы імя Максіма Багдановіча:**

–Карысталася вялікім попытам уся эканамічная літаратура, часопісы гэтага накірунку – "Вопросы экономики", "Российский экономический журнал", "Международные отношения и экономика мира". Таксама беларускія часопісы "Спадчына", "Беларуская мінуўшчына", "Беларускі гістарычны часопіс". Сярод газет перавага на баку "Звязды", "Народнай газеты". Дачакаліся, што жанчыны звярнулі і на сябе ўвагу. Патрабуюць "Работніцу", "Алесю", "Свет жанчын". Сур'ёзную мастацкую літаратуру зусім перасталі чытаць, і гэта праблема не мінулага месяца, а апошніх гадоў. Прывяду вось такі прыклад: "Сага аб Фарсайтах" Джона Галсуорсі складаецца з двух тамоў 1982 года выдання кожны. За чатырнаццаць гадоў першы том бралі шэсць разоў, а другі том усяго адзін раз. Затое кінаверсія "Марыяны" ніколі не ляжыць на паліцах.

**Алена Уладзіміраўна Дзятковіч, урач-стаматолаг раённай паліклінікі:**

– За мінулы месяц звярталіся да нас пераважна жанчыны, прычым рознага ўзросту. Учора, напрыклад, прыходзіла бабуля, якой дзевяноста гадоў. Бо ідуць да нас наводзіць парадак у роце: каб не хварэць зубамі і прыгожа выглядаць. Мужчыны, як пацыенты, асобная катэгорыя. Наведваюць стаматолагаў, калі дома ўсе лекі абязбольваючыя скончыліся і тры зубы ў роце засталіся. Тады зберажы ім астатнія. Пачнеш працаваць з бармашынай, наслухаешся кампліментаў. Адзін "душманам" называе, другі за спадніцу ўрача трымаецца і ўкол патрабуе, каб не было балюча. Горш за дзяцей. У мінулым месяцы паводзілі сябе паслухмяна дзеці, асабліва з вёсак Хоўхлава, Селеўцы, Літва.

Але часам здараліся і кур'ёзы. Хлопчыку ласкава так гаворыш: сплюнь. Плюе, ды не ў латок, а на ўрача. А былі дзеці, быццам толькі з лесу выйшлі. З такімі не працуеш, а ваюеш.Каб не хварэць зубамі, два разы ў год звяртайцеся ў стаматалогію на прафілактычны агляд. Бо статыстыка ў нас вельмі сумная. Сярод пятнаццацігадовых ужо немагчыма знайсці падлетка з усімі здаровымі зубамі. Каля сарака працэнтаў людзей, якім больш за шэсцьдзесят пяць гадоў, зусім бяззубыя.

**Галіна Віктараўна Лякомцава, гарачы прыхільнік чацвераногіх і "мама" двух догаў.**

– У апошні час – месяц-два назад - перавагу аддавалі буйным сабакам, якія могуць абараніць жыллё гаспадара: шар-пеям, догам, ратвейлерам. Аб модзе на сабак у год пацука скажу так: безумоўна, таксы попытам карыстацца не будуць, бо яны знішчаюць пацукоў. Хто захоча набыць таксу, каб год атрымаўся няўдалым? А вось догі застануцца ў модзе, як і раней. Ну і яшчэ чау-чау будзе аддадзена перавага.

**Аляксей Багавец, работнік цэнтра эстэтычнага выхавання падлеткаў:**

–Толькі клуб вясёлых і знаходлівых можа сабраць такую аўдыторыю, калі зала, разлічаная на пяцьсот месцаў, запоўнена колькі мажліва. Балельшчыкі сядзяць на прыстаўных крэслах, падлозе. КВЗ жыў, КВЗ жыве, КВЗ будзе жыць!

**Раман Крылоў, дырэктар фотастудыі "Ракорд":**

– У канцы снежня аказалі брацкую дапамогу прадстаўнікам дзяржавы Егіпет. Сям'і з васьмі чалавек (муж, жонка і шасцёра дзяцей) тэрмінова патрэбны былі фотакарткі на дакумент. Каля гадзіны мы абменьваліся знакамі, быццам глуханямыя: іх шаснаццаць рук і нашых шэсць. Знайшлі агульную мову, тым самым папярэдзілі міжнародны канфлікт.

**Сяргей Бялкоў, старшыня турклуба "Пілігрым":**

– У канцы лістапада пайшлі ў велапаход па Беларусі. Стартавалі, калі ішоў моцны дождж. Сярэдзіна пахода прыйшлася на зіму (тэмпература мінус сем, гурбы снегу). А фінішавалі пад ласкавым сонейкам. Такое ўражанне, што перасяклі тры кліматычныя паясы.

**Яўген, выкладчык музыкі:**

– У мінулым месяцы я кожныя выхадныя іграў на вяселлях. Наша брыгада музыкаў у сваім рэпертуары мае да пяцісот песень. Самымі папулярнымі за адпаведны перыяд (большую колькасць разоў заказвалі) былі "Гранітны каменьчык", "А я сяду ў кабрыялет...". На маршах заказвалі ў залежнасці ад спецыяльнасці. Раней шафёры жадалі слухаць "Крепче за баранку держись, шофёр!", а цяпер

"Кому-то снится море,
Кому-то снятся горы,
А я люблю дорогу..."

Медыцынскія работнікі з гонарам пяюць "Люди в белых халатах", але мала хто з іх ведае ўсе словы.

Міліцыя, як і трэба чакаць, робіць заказ на песню "Наша служба и опасна и трудна", ветэраны вайны – на "Дзень Перамогі". Наш брат музыкант, дзеля куражу, ці можа мода такая пайшла, хоча пачуць паланез Агінскага "Развітанне з Радзімай". А тыдзень таму прапаршчык-адстаўнік заказаў песню "Афіцэры".

Паважаныя члены партыі прыхільнікаў "РГ" і тыя, хто хоча імі стаць. З розных рэгіёнаў мы будзем перыядычна інфармаваць вас аб самых папулярных стравах, прычосках, пакупках... месяца. Улівайцеся ў нашы рады і вы будзеце ведаць усё аб усім і аб усіх.

*Старшыня-самазванец партыі Васіль САВІЦКІ*

